# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№ 6 (193)
чэрвень 2018

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"

## У НУМАРЫ:

### "Экслібрыс": Гутарка з сябрам журы Валерыем Герасімавым

Сябра журы, намеснік старшыні Рады "Бацькаўшчыны" Валерый Герасімаў, нагадвае, што добры гістарычны твор – заўсёды адказнасць для аўтара.

**Працяг на старонцы 4.**

### Польская дэлегацыя ўшанавала памяць ахвяраў сталінскіх рэпрэсій у Курапатах

Да брамы рэстарацыі "Поедем поедим", дзе праходзіла акцыя пратэсту, дэлегацыя не падышла.

**Працяг на старонцы 7.**

**Наступны нумар "Беларусаў у свеце" будзе прысвечаны 25-годдзю Першага з'езда беларусаў свету!**

**Архіўныя фотаздымкі, успаміны ўдзельнікаў, гутаркі!**




# 25 ГАДОЎ ТАМУ АДБЫЎСЯ ПЕРШЫ З'ЕЗД БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

Значнасць гэтай маштабнай падзеі цяжка пераацаніць. У найноўшай гісторыі нашай краіны месца Першага з'езда беларусаў свету, скліканага з ініцыятывы ЗБС "Бацькаўшчына", знаходзіцца ў адным шэрагу з атрыманнем незалежнасці і аднаўленнем забароненай нацыянальнай сімволікі.

Галоўнай ідэяй Першага з'езда былі незалежнасць і нацыянальнае адраджэнне. Галоўнай тэмай – дзяржаўнае будаўніцтва Беларусі. Цягам трох дзён беларусы з розных краін дзяліліся ўспамінамі, досведам, сваім бачаннем будучыні Беларусі, абмяркоўвалі праблемы развіцця ўзаемаадносінаў Беларусі з яе амаль чатырохмільённай дыяспарай, вырашалі пытанні аб падтрымцы замежных суродзічаў, абмяркоўвалі кірункі працы Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".

Прадстаўніцтва на З'ездзе мелі ўсе дэмакратычныя грамадскія сілы Беларусі, дзяржаўныя структуры, тыя беларусы замежжа, кантакты з якімі за савецкім часам былі забароненыя, а таксама беларусы замежжа, якія займелі такі статус праз падзел Савецкага Саюза на незалежныя рэспублікі.

Адкрыў З'езд народны пісьменнік Беларусі, прэзідэнт Згуртавання беларусаў свету Васіль Быкаў. Другім выступаў Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч. Даклад ад імя сусветнай беларускай супольнасці зачытваў віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі Радзім Гарэцкі. Сярод дэлегатаў З'езда – міністр замежных спраў Пётр Краўчанка, намеснік старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Міхась Дзямчук, міністр інфармацыі і друку Рэспублікі Беларусь Анатоль Бутэвіч, народны паэт, старшыня камісіі Вярхоўнага Савета па культуры, адукацыі і захаванні гістарычнай спадчыны Ніл Гілевіч, рэдактар газеты "Беларус", адзін з найвядомейшых дзеячаў Беларускага замежжа Ян Запруднік, кіраўнік Беларускага інстытуту навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку Вітаўт Кіпель. На З'езд былі запрошаныя найбольш вядомыя і заслужаныя перад Беларуссю людзі. Гэта тысяча дэлегатаў і больш за дзве сотні гасцей!

**Працяг на старонцы 2.**

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# 25 ГАДОЎ ТАМУ АДБЫЎСЯ ПЕРШЫ З'ЕЗД БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

Працяг са старонкі 1.



Мастакі Беларусі пры дапамозе Міністэрства культуры зладзілі ў Палацы мастацтва вялікую выставу з удзелам мастакоў з беларускага замежжа. З дапамогай Мінскіх гарадскіх уладаў горад быў упрыгожаны плакатамі і афішамі з вітаннямі да ўдзельнікаў З'езда, а будынак Опернага тэатра, дзе праходзіла мерапрыемства, быў аздоблены Купалавымі словамі: "На Сход! На Усенародны Сход!". Урачыстасці ў межах культурнай праграмы З'езда прайшлі ў Наваградку, Нясвіжы, Лідзе, Баркулабаве (Магілёўшчына) і іншых месцах.

З'езд стаў першым вялікім мерапрыемствам, у ажыццяўленні якога бралі сумесны парытэтны ўдзел грамадскія сілы і дзяржаўныя ўлады. Гэта стала магчымым дзякуючы шчыльнай супрацы ў арганізацыі мерапрыемстваў, якія папярэднічалі Першаму з'езду – Устаноўчай канферэнцыі па арганізацыі Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" ў верасні 1990 года, стварэнні Арганізацыйнага камітэта па падрыхтоўцы З'езда ў ліпені 1992, а таксама Першага сходу беларусаў блізкага замежжа ў снежні 1992 года. У тым самым годзе Савет Міністраў Беларусі прыняў спецыяльную пастанову "Аб пытаннях дзейнасці ЗБС «Бацькаўшчына»". Міністэрства замежных спраў дапамагала арганізатарам З'езда шукаць кантакты заходніх эмігрантаў. Міністэрства інфармацыі і друку паспрыяла выданню кніг Вітаўта Кіпеля, Аркадзя Смоліча і Юрыя Туронка, а таксама дало добрую рэкламу падзеі. Госці і дэлегаты З'езда атрымалі бясплатныя візы на ўезд.

Першы з'езд беларусаў свету стаў першым рэальным крокам і вялікім прарывам у справе кансалідацыі беларускай нацыі. Урачыстай святочнай сустрэчай з братамі і сёстрамі пасля доўгага расстання. Вялікім Сходам, аб якім прарочыў Пясняр.

Неўзабаве Савет Міністраў зацвердзіў Дзяржаўную праграму "Беларусы ў свеце" і стварыў Каардынацыйны савет па справах беларускай дыяспары пры ўрадзе. І хаця не спраўдзіліся аптымістычныя спадзевы на тое, што дзяржава надалей будзе толькі паскараць развіццё супрацоўніцтва з беларускім замежжам, распрацаваны ЗБС "Бацькаўшчына" "Закон аб беларусах замежжа", які надзяляе прадстаўнікоў беларускай дыяспары юрыдычным статусам, праз дваццаць гадоў усё ж такі быў прыняты. Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" ў сваёй дзейнасці па-ранейшаму кіруецца прынцыпамі і ідэаламі, якія дапамагаюць беларусам не зважаючы на ўсе спрэчкі, збірацца разам. Чвэрць стагоддзя З'езды беларусаў свету рэгулярна праходзяць у Мінску і працягваюць аказваць уплыў на жыццё беларусаў і на Бацькаўшчыне, і за мяжой.

**Інфармацыйны цэнтр**
**МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

навіны "Будзьма беларусамі!"

# ЛЕТНІКІ З "БУДЗЬМА БЕЛАРУСАМІ!"

Скончыўся навучальны год. Але шмат хто з вучняў не пакінуў сцен роднай школы і на летні перыяд: пачаліся летнікі. І, канешне, грамадская культурніцкая кампанія "Будзьма беларусамі!" і яе сябры працягваюць ладзіць творчыя сустрэчы для цікаўных.



Так, 8 чэрвеня паэт Міхась Скобла і спявачка Таццяна Грыневіч-Матафонава зладзілі два выступы ў летніку на базе СШ №1 горада Любань Мінскай вобласці. Гэты зацішны гарадок на гістарычнай Случчыне належыць да тых нешматлікіх мясцін у Беларусі, дзе з дэмаграфіяй усё ў парадку. Скажам, у згаданай школе – больш за 1000 вучняў, ва ўсіх класах – па дзве-тры паралелі. Таму сустрэчы праходзілі ў прасторнай актавай зале.

Вучні з захапленнем успрымалі выступы сталічных гасцей, адказвалі на пытанні віктарыны "Беларусь – мая краіна", дружна падпявалі і "Мой родны кут", і "Спадчыну", і "Куру-шчабятуру".

Падчас сустрэч быў праведзены і мінірэферэндум. Справа ў тым, што працай ладную частку любанцаў забяспечвае расійскі алігарх Міхаіл Гуцэрыеў, які скупіў мясцовыя калійныя радовішчы і прадпрыемствы. У сувязі з чым па горадзе пайшла чутка, што Любань неўзабаве могуць перайменаваць у… Гуцэрыеўск. І нібыта на гэта ёсць прынцыповая згода самага высокага начальства. Дык вось, на школьным рэферэндуме ўсе вучні і настаўнікі прагаласавалі за тое, каб назву іх роднага горада ніколі не мянялі. "Любань – ад слова "любоў", а без любові людзі пражыць не могуць", – падвяла рысу "падліковая камісія".

**P.S. Калі Вы жадаеце зладзіць цікавую сустрэчу з "Будзьма беларусамі!" у сваёй мясцовасці, пішыце: razam@budzma.org – будзем рады новым сябрам!**

**Болей чытайце на сайце budzma.by**

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# ЯК ЭМІГРАНТЫ СВАРЫЛІСЯ ПРАЗ "ПРАВІЛЬНАГА" І "НЯПРАВІЛЬНАГА" КУПАЛУ

Адразу дзве кнігі з серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны" прэзентавала даследчыца паваеннай эміграцыі Наталля Гардзіенка на фестывалі Pradmova.



Першае выданне – гэта кніга пра кнігу пад назвай "Як укладалі «Спадчыну»", якую ўкладалі сумесна Наталля Гардзіенка і нью-ёркскі архівіст Лявон Юрэвіч. Зборнік "Спадчына" з паэзіяй Янкі Купалы выйшаў у Мюнхене ў 1955 годзе, у часы, калі беларуская дыяспара на Захадзе яшчэ не ўмацавалася і не абжылася. І гэта феномен: людзі, што меліся думаць пра свае сем'і, працу і хлеб штодзённы, арганізаваліся і знайшлі грошы на хлеб духоўны – выданне твораў нацыянальнага прарока.

Кніга ва ўсіх падрабязнасцях распісвае падрыхтоўчы працэс да з'яўлення купалаўскага зборніка, які заняў тры гады: з 1952 па 1955-ы. Гэта і дыскусіі паміж рэдактарамі Станіславам Станкевічам і Вітаўтам Тумашам, і фінансавыя аспекты (у выніку грошы на кнігу знайшоў старшыня БНР Мікола Абрамчык), і нават працэс выбару шрыфтоў з калантытуламі. Цікава, што фактычна выйшлі два выданні: больш сціплае і больш раскошнае, каб кожны мог набыць на свой густ і кашалёк.

У пэўным сэнсе купалаўская "Спадчына" для эмігрантаў была патрэбная не менш за Тору для яўрэяў у часы выгнання, ці за "Кабзар" для ўкраінцаў, раскіданых пасля вайны, як і беларусы, па шырокім свеце. Гэта сімвал і запавет, які тлумачыў, чаму варта заставацца сабой і не згубіцца ў шматтысячных заакіянскіх мегаполісах.

Але і тут не ўсё проста. Што рабіць з "савецкім" Купалам, ягонымі одамі Сталіну і пластом творчасці 1930-х? Спачатку было дамоўлена, што прадмову да зборніка піша Янка Ліманоўскі, але той быў упэўнены, што Купалу варта ўспрымаць цэласна: і дасавецкага, і савецкага. Выдаўцы ж вырашылі па-іншаму і проста выключылі савецкі пласт. Для Ліманоўскага гэта быў шок і вялікая крыўда: у выніку ён нагогул прыпыніць кантакты з беларускімі коламі ў замежжы...

Цікава, што дыскусіі пра Купалу і ягоную паэзію "з-пад чырвонай зоркі" ў нас трываюць і цяпер – згадаць хаця б скандальнага "Каяна Лупаку"... Наўрад ці варта сувора судзіць эмігрантаў за непрыманне Купалы ў комплексе: крыўда на савецкі строй і Сталіна, якія вынішчалі Беларусь і зрабілі іх выгнанцамі, была занадта вялікай, боль і нянавісць перамаглі. Нават не прымаючы такой пазіцыі сёння, згадзіцеся, яна вартая разумення.

Другая з прэзентаваных кніг – "Pro et contra" – прысвечаная паэту-эмігранту Масею Сяднёву. Назва, якая перакладаецца з лаціны як "за і супраць", не выпадковая: Сяднёў бачыцца ўкладальніку Лявону Юрэвічу супярэчлівай асобай, якая выдатна ілюструе непаразуменні і шматлікія расколы ў шэрагах паваеннай дыяспары.

Скажам, будучы кіраўніком Радыё Свабода, Сяднёў паступова... змяняў мову выдання, набліжаючы да варыянту наркамаўкі: не "Менск", а "Мінск" і г. д. З аднаго боку, гэта можна растлумачыць паходжаннем: Сяднёў – усходнік, нарадзіўся на Магілёўшчыне. З іншага, магчыма, гэта была метадалогія: каб прабіцца да сэрцаў савецкіх беларусаў, трэба размаўляць на максімальна зразумелай мове. У любым выпадку, паплечнікі-эмігранты яго за гэта крытыкавалі.

Цікава, што нават на эміграцыі беларусы-ўсходнікі ставіліся да заходнікаў насцярожана. Чаму? Бо да 1939-га падзел быў цалкам рэальны і рэгіёны сапраўды ўяўляліся нашмат больш далёкімі адзін ад аднаго, чым сёння. Акрамя гэтага, існаваў яшчэ і падзел на прыхільнікаў БНР і БЦР... Сяднёў прызнаваў БЦР на чале з Астроўскім, і гэта не магло застацца незаўважаным для яго крытыкаў: Радыё Свабода, моцны інфармацыйны рэсурс, падтрыманы Штатамі, аказаўся пад кантролем чалавека з "варожай групоўкі"...

"Свабода", як мы памятаем, была важнай для беларусаў з абодвух бакоў жалезнай заслоны. Для жыхароў БССР гэта быў спосаб пачуць голас "свабоднага свету", для эмігрантаў – даведацца, як там на Радзіме. Паводле Наталлі Гардзіенкі, нават у 1990-я эмігранты згадвалі пра свой страх цалкам страціць сувязь з Беларуссю і перастаць разумець суайчыннікаў з Брэста, Гомеля і Мінска...

Магчыма, некаму падасца, што такая літаратура можа зацікавіць толькі маленькае кола даследчыкаў, тэмы занадта вузкія і далёкія: гэта не Радзівілы, Каліноўскі ці Балаховіч, якія выклікаюць шмат эмоцыяў. З іншага боку, гэта кнігі пра нас сённяшніх, пра тое, як беларусы варагуюць і дзеляцца на групоўкі нават у складаных абставінах, але часам аб'ядноўваюцца, каб зрабіць нешта карыснае для краіны, якую падзяліць немагчыма.

**Алесь Кіркевіч, "Будзьма беларусамі!"**

навіны

# ВА УКРАІНЕ Ў 1930-я ГАДЫ РЭПРЭСАВАЛІ БОЛЬШ ЗА 2 ТЫСЯЧЫ БЕЛАРУСАЎ

Галіновы дзяржаўны архіў Службы бяспекі Украіны абнародаваў новыя дакументы аб маштабах палітычных рэпрэсій, якія адбываліся ў 30-я гады мінулага стагоддзя.

На ўкраінскай тэрыторыі ў перыяд з 1 кастрычніка 1936 года да 1 ліпеня 1938 года былі арыштаваныя больш як 253 тысячы грамадзян, у тым ліку 2276 беларусаў.

Адметна, што ўжо ў той перыяд пад рэпрэсіі траплялі і супрацоўнікі НКУС, чырвонаармейцы, камсамольцы і камуністы.

Амаль палова ўсіх арыштаваных абвінавачваліся ў паўстанцкай контррэвалюцыйнай дзейнасці (115 788 чалавек) і контррэвалюцыйнай агітацыі (30 854 чалавек). Яшчэ 25 132 чалавекі абвінавачваліся ў "польскім шпіянажы". Як сведчаць справы, што захоўваюцца ва ўкраінскіх архівах, беларусаў найчасцей абвінавачвалі якраз у "польскім шпіянажы" ці антысавецкай агітацыі. Найперш пад арышты ва Украіне траплялі беларусы, якія нарадзіліся на той тэрыторыі, што да 1939 года знаходзілася ў складзе Польшчы, а пазней была ўключаная ў склад БССР.

Сёння ў Галіновым дзяржаўным архіве Службы бяспекі Украіны і яе рэгіянальных аддзяленнях захоўваюцца справы амаль 2 тысяч рэпрэсаваных на ўкраінскай тэрыторыі беларусаў.

**Алена Літвінава, "Радыё Свабода"**


Рассекречено 24/2-1416 08.04.2013
СОВЕРШЕННО СЕКРЕТНО.
143 190

СВОДНЫЕ ДАННЫЕ

ОБ АРЕСТОВАННЫХ И ОСУЖДЕННЫХ ОРГАНАМИ НКВД УССР

ЗА ВРЕМЯ С 1 ОКТЯБРЯ 1936 года ПО 1-е ИЮЛЯ 1938 г о д а.

I. СОЦИАЛЬНЫЙ СОСТАВ АРЕСТОВАННЫХ:

ВСЕГО арестовано – 253.051 человек.

Из них:

| | | |
|---|---|---|
| Бывших кулаков | 95395 | чел. |
| Бывш.людей /помещик., дворян, торговцев, жандарм., и др./ | 109380 | " |
| Деклассирован.элемента | 18685 | " |
| Служител.религиозн.культа | 6556 | " |
| Кустарей | 2606 | " |
| Дом.хозяек, иждивенц., пенсион. | 4306 | " |
| Служащих | 5030 | " |
| Единоличников | 3310 | " |
| Колхозников | 2079 | " |
| Рабочих | 1168 | " |
| Красноарм.и младш.начсостав РККА, ПО и ВО НКВД | 1367 | " |
| Комсостав РККА, ПО и ВО НКВД | 2111 | " |
| Сотрудников Н К В Д | 1058 | " |
| Бывш.членов В К П /б/ | 10995 | " |
| Бывш.членов В Л К С М | 1417 | " |

144 2. 191

2. ПОЛИТИЧЕСКАЯ ОКРАСКА АРЕСТОВАННЫХ:

| | | |
|---|---|---|
| Троцкистов и правых | 10256 | чел. |
| Эсеров | 2295 | " |
| Меньшевиков | 785 | " |
| Анархистов | 178 | " |
| Разных /кадет., монарх., ТКП и др./ | 1102 | " |

Членов национал.к-р организаций:

| | | |
|---|---|---|
| Украинских | 38283 | чел. |
| Армянских | 388 | " |
| Сионистских | 1553 | " |
| Разных | 6710 | " |
| Фашистов | 11130 | " |
| Церковников, сектантов | 6319 | " |
| Белогвардейцев | 8412 | " |
| | 87411 | чел. |

3. АРЕСТОВАНО В ПОРЯДКЕ ПРИКАЗОВ №№ 00485, 00593 и др.

| | | |
|---|---|---|
| По польской линии | 54011 | чел. |
| По харбинской -"- | 960 | " |
| По немецкой -"- | 23035 | " |
| По румынской -"- | 6188 | " |
| По латышской -"- | 1995 | " |
| По греческой -"- | 5642 | " |
| По иранской -"- | 503 | " |
| По болгарской -"- | 1378 | " |
| По чешской -"- | 289 | " |
| По другим линиям | 657 | " |
| | 94659 | чел. |

4. В ПОРЯДКЕ ПРИКАЗА № 00447.

| | | |
|---|---|---|
| Бывших кулаков | 51400 | чел. |
| Уголовников | 12780 | " |
| Проч.к-р элемента | 47495 | " |
| | 111675 | чел. |

гутарка

# "ЭКСЛІБРЫС": ГУТАРКА З СЯБРАМ ЖУРЫ ВАЛЕРЫЕМ ГЕРАСІМАВЫМ

Арганізатары "Экслібрыса", прысвечанага 100-годдзю БНР, да 1 жніўня чакаюць ад аўтараў творы на гістарычную тэматыку. Сябра журы, намеснік старшыні Рады "Бацькаўшчыны" Валерый Герасімаў, нагадвае, што добры гістарычны твор – заўсёды адказнасць для аўтара.



**– Якая галоўная парада ад Вас для ўдзельнікаў "Экслібрыса"?**

– Шанаваць папярэднікаў, не губляць веру ў праўду і моцна трымацца нацыянальнага грунту. Усё было да нас і будзе пасля нас. Але ў беларусаў у гэтым свеце свая місія, ніхто іншы за нас яе не здзейсніць. Сапраўдны гісторык, аўтар гістарычнай белетрыстыкі, на мой погляд, павінны займаць і актыўную жыццёвую пазіцыю. Вы паглядзіце на першыя ўрады БНР і ССРБ. За рэдкім выключэннем, іх чальцы – вайскоўцы, літаратары, выдаўцы, настаўнікі. Але з якой пасіянарнасцю! Радзіма паклікала, і яны заклалі такія трывалыя падмуркі нашай дзяржаўнасці ў найноўшым часе. Янка Серада, першы БНРаўскі прэзідэнт, ствараў і ўзначальваў бібліятэку Інбелкульта. Кастусь Езавітаў, першы вайсковы міністр БНР, бібліяфіл, сабраў адну з узорных прыватных кніжніц па беларушчыне. Усевалад Ігнатоўскі, эсэр, наркамасветы БССР – першы прэзідэнт Беларускай акадэміі навук, аўтар адметных гістарычных дапаможнікаў... Часам самавукі, як Купала ці Ластоўскі, але паспрабуйце нават сёння пераўзысці ўзровень "Тутэйшых" ці "Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі". Асабіста я ганаруся, што напачатку 1990-х разам з Лявонам Луцкевічам, Міколам Ермаловічам, Георгіем Штыхавым, Віктарам Шматавым, Віктарам Навуменкам, Анатолем Астапенкам спрычыніўся да стварэння Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі, адной з статутных мэтаў якой было якраз адраджэнне і папулярызацыя аб'ектыўных ведаў пра нашую гісторыю. Падкрэслю, наш будзіцель Мікола Ермаловіч, як і астатнія адраджэнцы-навукоўцы не лічылі тады для сябе нечым ганебным удзельнічаць у практычнай палітыцы, калі справа датычыла адраджэння нацыі і дзяржавы. Таму сучасным аўтарам гістарычных прац я б да ўсяго параіў актыўна "несці ў народ" свой досвед і быць гатовымі стаць за стырно кіраўніцтва дзяржавай, калі ў гэтым з'явіцца тэрміновая неабходнасць. Кіраваць краінай павінны тыя, хто вядзе радавод яе дзяржаўнасці ад протабеларускіх плямёнаў V–VI стагоддзяў, а не ад 1917 года.

**– Чым Вас прывабіла і прываблівае зараз даследаванне гісторыі?**

– Нармалёвы беларус, з нармалёвай сям'і, з нармалёвага беларускага места проста не можа не зацікавіцца гісторыяй. Так было і са мной. Старажытны Брагін 1147 года першага згадвання ў летапісе. З дзяцінства – атмасфера замка Вішнявецкіх (у 1977 годзе яго раскопкі вёў легендарны Міхась Ткачоў, на просьбу якога праз дзясятак гадоў я апрацоўваў дзялянку XX стагоддзя для калектыўнай працы па гісторыі беларускай вайсковасці), каменя кахання Ілжэдзімітрыя да Марыны Мнішак, пошуку падземных хадоў. Родны дом адразу за замкавым ровам, дзе аскепкі сярэднявечнага посуду і ВКЛаўскія талеры ды барацінкі валяюцца проста пад нагамі. Плюс непазбыўнае пачуццё волі і справядлівасці, што ўласціва менавіта беларусам Падняпроўя ледзь не на генетычным узроўні. Усё астатняе – справа лёсу і выпадку. Зараз – як бы адваротны працэс. Трэба аддаваць роднай зямельцы, што атрымаў. У гэтым сэнсе для мяне вялікая загадка – каста чыноўнікаў, у побыце – "у дошку свае хлопцы", якія ўчора тапталі разам з табой тыя ж сцяжынкі, гайсалі па тых жа гаях, узлазілі на тыя ж сівыя муры, а сёння пад сурдзінку пра ўпарадкаванне "малой радзімы" зносяць бульдозерамі драўляныя палескія хаты з унікальнымі малымі архітэктурнымі формамі, адметнасцямі і асаблівасцямі тысячагадовага традыцыйнага народнага дойлідства, руйнуюць гістарычную забудову і нявечаць гістарычную планіроўку старажытных паселішчаў, вырубаюць сады з унікальнымі старадаўнімі палескімі гатункамі яблык – "пуцінка", "штрыфель", "малінаўка", "райка", "ранет". І пры гэтым захоўваюць усе гэтыя анахранічныя вуліцы Савецкія, помнікі Леніну, сувораўскія музеі і вучэльні ды змагаюцца з бел-чырвона-белым колерам на ўзроўні дэгенератызму. Дзе розум, дзе адукацыя? Дзе гонар і годнасць, урэшце?!

**– Хто з беларускіх аўтараў для Вас аўтарытэт у гістарычнай тэматыцы?**

– Аўтарытэт ён і ёсць аўтарытэт. Ёсць яшчэ асабістыя амбіцыі, сімпатыі і антыпатыі. Як па мне, іх часам трэба ўтаймоўваць у сабе, не ліць ваду на млын фальсіфікатараў айчыннай гісторыі і культуры дзеля агульнай нацыянальнай згоды. Гэта асабліва актуальна ў сённяшніх рэаліях. Ніколі не хаваў тут сваёй пазіцыі. Лічу, да сярэдзіны 1980-х нацыя загаіла раны, фізічныя і духоўныя, пасля доўгіх гадоў русіфікацыі і рэпрэсій. Паўстала пакаленне ўнукаў Яна Пазняка, Адама Станкевіча, Кастуся Езавітава, Вацлава Ластоўскага, Вацлава Іваноўскага, Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага, Янкі Купалы і Якуба Коласа. Мы зламалі хрыбет камунізму, аднавілі беларускую дзяржаўнасць. БНФ, бел-чырвона-белы сцяг, Пагоня паўсталі нашымі сімваламі, ідэалогіяй, ментальнасцю. Зянон Пазняк, Алесь Адамовіч, Васіль Быкаў сталі нашымі абаронцамі і гарантамі незваротнасці працэсаў нацыянальнага адраджэння. На мой погляд, пасля вядомых падзей ў сярэдзіне 1990-х нацыянальнае адраджэнне прыняло форму грамадзянскай вайны. Толькі не ўзброенай, а ментальна-ідэалагічнай. На адным баку апынулася нацыянальная эліта, нацыянальна арыентаваная інтэлігенцыя і духова здаровая частка простага народу. На другім – нашчадкі сталінскіх катаў, кампрадорская частка інтэлігенцыі, вайскова-інжынерна-люмпен-пралетарская пятая калона аскепкаў народна-гаспадарчай эсэсэсэраўскай імперыі. Ад вясны 1996-га сілы нацыянальнага адраджэння вядуць цяжкія ар'ергардныя баі, баі адстойвання дзяржаўнай незалежнасці, роднай мовы і культуры. І ў гэтых баях пераслед людзей за палітычныя погляды шляхам звальнення з працы і да т.п., адыгрывае немалую ролю. Тут на нацыянальна арыентаваных гісторыках і пісьменніках улада адарвалася напоўніцу. Але гісторыю не перавернеш на свой капыл. Ды і беларусы сёння – не статак бараноў. Мне падаецца, нацыянальны супраціў негвалтоўнага характару якраз меў вынікам усплёск развіцця гістарычнай кнігі – і прафесійнай, і белетрыстычнай, і мастацкай. Гэта ўжо нават не дзясяткі, а сотні імёнаў. Усе яны на слыху, у кожнага свая чытацкая і інфармацыйная аўдыторыя. Як па мне, дык і графаманскія, міфалагічныя і псеўдагістарычныя творы маюць месца быць. Мы багатая інтэлектуальна нацыя – усё пераварым. Федарэнкаўскі невялічкі раман "Нічые" пра падзеі Слуцкага чыну па мастацкім узроўні – гэта планка Гарэцкага, Караткевіча, Быкава, Брыля ў іх творах на гістарычную тэматыку.

**– Чаго Вы чакаеце як крытык і сябра журы ад аўтараў, чые творы будзеце ацэньваць? Ці маеце ўжо цяпер пэўны набор крытэраў?**

– Гістарычнасць, мастацкасць, нацыянальная пазіцыя – вось і ўсе крытэрыі. Гэта вялізны гонар і адказнасць для кожнага аўтара – удзельнічаць у конкурсе "Экслібрыс". Бо арганізатар конкурсу – Саюз беларускіх пісьменнікаў, тая творчая арганізацыя, якая ці не асноўны цяпер гарант незнікнення беларусаў у цывілізацыйнай прасторы. Пасля таго, як у Прэзідэнцкай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь, дзе я працаваў загадчыкам аддзела старадрукаў і рэдкіх выданняў, пачалі нішчыць нацыянальна арыентаваныя гістарычна-кнігазнаўчыя праекты, а мяне звольнілі, праваабаронца Алесь Бяляцкі, што некалі стаяў ля вытокаў "Тутэйшых", сказаў: "Увогуле добра і так, што ты за столькі гадоў працы ва ўрадавай установе не скурвіўся". Вось і СБП "не скурвіўся", нягледзячы на шматлікія спробы расколу і правакацыі. Таму яго апека і ўвага дарагога каштуе.

**– Распавядзіце, калі ласка, яскравы выпадак з Вашай працы як даследчыка гісторыі.**

– Гісторыя стаіць проста за нашымі дзвярыма. Вось возьмем адно, "простыя словы, простыя рэчы". Сапега, канцлер ВКЛ: "Гэтага яго каралеўская міласць мае з дапамогай Боскай права паспалітае, якога трэба без абцяжарвання прытрымлівацца. І тады падчас усяго панавання яго каралеўская міласць бяспечна на абодва вуха можа ў той меры спаць...". А.Лукашэнка, Прэзідэнт РБ: "Няхай у нас будзе недасканалы дзяржаўны лад". Пры гэтым, ВКЛ – залаты век беларускай дзяржаўнасці, РБ – "апошняя дыктатура Еўропы". Ці патрэбныя тлумачэнні?! Дзе Дзень беларускага партызана ў Беларусі? Дзе пайменны спіс-мартыралог усіх загінулых беларусаў у Другой сусветнай вайне? А вы кажаце – цікавая гісторыя...

**Алена Босава,**
**"Саюз беларускіх пісьменнікаў"**

навіны

# ЛЁС ПАЧАТКОВАЙ ШКОЛЫ ПРЫ БЕЛЛІЦЭІ Ў ГАЙНАЎЦЫ ЗАСТАЕЦЦА НЯВЫРАШАНЫМ

Справа з адкрыццём у Гайнаўцы пачатковай школы з вывучэннем беларускай мовы яшчэ не вырашана.




Прыгадаем, што з ініцыятывай адкрыцця такой школы выступіла група бацькоў. Прычым яны хочуць, каб пачатковая школа працавала пры існуючым комплексе школ з дадатковым вывучэннем беларускай мовы ў Гайнаўцы, які на гэты момант аб’ядноўвае гімназію і ліцэй. Супраць ідэі бацькоў выступіў бурмістр горада, а таксама частка гарадскіх радных. Іх прапанова – каб у адной са школ, меркавана ў мікрараёне Мазуры, адкрыць клас з вывучэннем беларускай мовы. Справу каментуе дырэктар гайнаўскага комплексу школ Ігар Лукашук: “Гаворка не ідзе пра пачатковую школу, а толькі пра аддзелы, асобны клас, а не школу. Гэта, на мой погляд, размінаецца з патрабаваннем бацькоў, гэта не тое ж самае, зразумела, калі школа накіраваная на гэтую працу”.

Тым больш, што ў беларускім ліцэі ў Гайнаўцы ёсць усе ўмовы для таго, каб арганізаваць яшчэ і пачатковую школу з вывучэннем беларускай мовы. Дый сам ліцэй даўно стаў прэстыжнай навучальнай установай з багатым досведам.

“Бо такія спадзяванні бацькоў, каб у Гайнаўцы была школа, якая, апрача таго, што будзе вучыць на высокім узроўні, будзе таксама даваць гэтую ж падтрымку ў выхаванні з пашанай да роднага, да сваёй спадчыны. І вядома, што нашая школа мае ў гэтым самы вялікі досвед і самыя добрыя рэзультаты”, – дырэктар спадзяецца, што жаданне бацькоў ажыццявіцца і ў комплексе школ з дадатковым вывучэннем беларускай мовы ў Гайнаўцы паўстане яшчэ і пачатковая школа. Аднак дзеля гэтага бацькам трэба яшчэ зрабіць шмат намаганняў і перахіліць справу на сваю карысць.

**Яна Запольская, “Беларускае Радыё Рацыя”**

# “КУЛЬТУРА НА СХОДАХ МУЗЕЯ”

Паказаць, што музей – жывая ўстанова і пазнаёміць гасцей мерапрыемства з беларускай культурай – мэты Беларускага этнаграфічнага фестываля “Культура на сходах музея”.

“Тут сустракаецца беларуская культура гэтых мінулых гадоў з гэтай сучаснай, – кажа дырэктар Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы Тамаш Ціханюк. – Каб людзі ўбачылі, што гэтая ўстанова жывая, што гэтая культура жывая. І што апрача таго, што мае пастаянныя выставы з таго, што ўжо было, мае і што паказаць цікавага цяперашняга: жывую музыку, жывое беларускае слова”.

Беларускі этнаграфічны фестываль “Культура на сходах музея” прайшоў у 14-ты раз. Шматгадзінны канцэрт беларускай музыкі завяршыў гурт “Палац”. Кожны меў нагоду ўзяць удзел у майстаркласах па рукадзеллі. У нядзелю 10 чэрвеня Музей запрашае на чарговае мерапрыемства – Беларускі фэст “І там жывуць людзі”, які пройдзе ў вёсцы Гушчэвіна, што ў Нараўчанскай гміне.

**Давід Гайко, Беларускае Радыё Рацыя**

# ЯК АМЕРЫКАНСКІЯ БЕЛАРУСЫ СВЯТКАВАЛІ КУПАЛЛЕ

23 чэрвеня беларусы з Нью-Ёрка і суседніх штатаў сабраліся ў парку каля мястэчка Крос-Рывер, каб супольна адсвяткаваць старажытнае беларускае свята Купалле.

Амерыканскія беларусы ладзяць Купалле ўжо далёка не першы год, але сёлета да арганізацыі свята спрычыніліся вядомыя сваім творчым падыходам і ўменнем выдатна падрыхтаваць і правесці мерапрыемства Ганна Шарко і Аляксандр Мазгавы з сябрамі-актывістамі з групы ў фэйсбуку “Беларусы ЗША. Разам лягчэй”. Таму сёлетняе Купалле адбылося ў пашыраным фармаце і планавалася як актыўны адпачынак на працягу абодвух выхадных дзён. У дадатковай праграме былі футбол, валейбол, урок беларускай мовы, гульня “Пошук папараць-кветкі” па ўзору больш вядомай гульні “Пошук скарбаў”, спартыўная эстафета з інтрыгоўнай назвай “Бітва князстваў” і іншыя заняткі. Валянціна Якімовіч прывезла сваю вялікую калекцыю вышываных беларускіх кашуль і строяў для тых, у каго не было сваёй традыцыйнай вопраткі.

Такім чынам, каля вогнішча ўсе ўдзельнікі святкавання былі апранутыя ў сапраўдныя беларускія вышываныя кашулі і сукенкі. Лена і Пётр Рыжыя падрыхтавалі адмысловы купальскі напой, завараны на 27 розных зёлках – Крупнік. Перад тым, як Купаліш і Купалінка распалілі вогнішча, Валянціна Якімовіч распавяла пра значэнне свята летняга сонцастаяння – Купалля для нашых продкаў, пра Купальскія метафары і сімвалізм у купальскіх спевах і гульнях. Спевы каля вогнішча, карагоды і гульні праходзілі пад кіраўніцтвам Валянціны Якімовіч і Лены Рыжай. На сёлетнім Купаллі было шмат ахвочых скокнуць праз вогнішча, трымаючы дзяўчыну за руку. А пасля апоўначы арганізавалася вялікая група ахвочых паехаць на суседняе возера, каб акунуцца ў ваду ў чароўную купальскую ноч. Ёсць надзея, што Купалле дапаможа ў захаванні беларускіх традыцый і ў мацаванні беларускай грамады ў Амерыцы.

У падрыхтоўцы і правядзенні свята таксама ўдзельнічалі сям’я Алены і Юрыя Кавальчукоў і Беларуска-амерыканскае згуртаванне “Пагоня”.

**Серж Трыгубовіч, “Наша Ніва”**



навіны

# БЕЛАРУСЫ КАНАДЫ ЎЗГАДАЛІ ПРА КУРАПАТЫ ЛЯ БЕЛАРУСКАГА КРЫЖА Ў МІДЛАНДЗЕ

16 чэрвеня беларусы Канады здзейснілі традыцыйную пілігрымку да Беларускага памятнага Крыжа, што ў Прошчы Пакутнікаў у Мідландзе ля возера Гурон.

Сабралася блізу 40 чалавек з бел-чырвона-белымі сцягамі, белымі і чырвонымі кветкамі.

Напачатку Першаіерарх Беларускае аўтакефальнае праваслаўнае царквы Архіепіскап Навагрудскі і Паўночна-амерыканскі Святаслаў прачытаў малітву за Беларусь.

Затым слова меў Алесь Кот. Ён узгадаў пра юбілей у жыцці і ахвярніцкай дзейнасці Уладыкі Святаслава – дзесяць гадоў таму ў Кафедральным Саборы БАПЦ у Брукліне адбылося ягонае высвячэнне ў сан епіскапа і абранне на пасаду Першаіерарха. Таксама Алесь Кот распавёў пра гісторыю Беларускага Крыжа. Ідэя з'явілася ў Раісы і Вінцэнта Жук-Грышкевічаў. Яны заклікалі беларусаў замежжа адзначыць тысячагоддзе хрысціянства ў Беларусі, фінансава спрычыніўшыся да пабудовы і ўзняцця Беларускага Крыжа ў святым месцы паўночна-амерыканскіх мучанікаў, што завецца Прошча Пакутнікаў, за 80 міляў на поўнач ад Таронта, над возерам Гурон. На гары стаіць касцёл, а вакол яго на некалькіх гектарах плошчы размешчаныя крыжы альбо алтары розных нацыянальнасцяў. Штотыдзень Прошчу Пакутнікаў наведваюць тысячы людзей. У студзені 1988 г. былі атрыманы дазвол на ўсталяванне і высвячэнне беларускага крыжа, якое адбылося падчас 18-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амерыкі.

Дызайнерка Ірына Варабей распавяла пра гісторыю Прошчы. У XVII ст. гэтыя мясціны толькі пачалі засяляцца еўрапейцамі. Першымі сюды прыйшлі езуіцкія місіянеры. Вакол тады жылі плямёны гуронаў, а на ўсход знаходзілася тэрыторыя, на якой пражывала вялікае аб'яднанае племя іракезаў. Іхнай мэтай было далучыць да сябе суседнія плямёны, і адзіным дзейсным сродкам для дасягнення гэтай мэты яны бачылі вайну. Калі сюды прыйшлі еўрапейцы, гуроны прынялі іх, дзяліліся сваім досведам выжывання ў гэтай краіне. Місіянеры-хрысціяне вывучылі іхную мову і навучалі мясцовыя плямёны веры ў Хрыста. Гуроны цэлымі вёскамі пераходзілі ў хрысціянства, была заснаваная хрысціянская вёска, у якой жылі разам пасяленцы і гуроны. У 1649 г. іракезы парэзалі ўсіх жыхароў – менавіта за тое, што яны адышлі ад свае веры. Людзі стагоддзямі памяталі пра гэтую трагедыю, і на гэтым месцы канадскія езуіты ў 1925 г., збудавалі касцёл, які служыць сховішчам для парэштак трох закатаваных місіянераў і месцам для пакланення і малітваў, а зямля вакол яго лічыцца святой.




Пасля яе выступу Алесь Кот распавёў яшчэ пра адзін мемарыяльны крыж, усталяваны беларусамі Канады ў 1995 г. побач з Беларускім памятным Крыжам. На гранітным пастаменце – шасціканцовы крыж, а на камяні ўсталяваная мемарыяльная шыльда з надпісам на ангельскай, беларускай лацінцы і французскай мовах: "Памяці ахвяраў камуністычнага тэрору. Сотні тысяч нявінных ахвяраў, расстраляных у Курапатах, сотні тысяч беларускіх навукоўцаў, настаўнікаў, пісьменнікаў, паэтаў, сялян, работнікаў, замучаных у савецкіх вастрогах, ссыльных лагерах Варкуты, Калымы й Салоўкаў – мы вас не забудзем! "Курапаты – Дарога Смерці" – сталіся сімвалам генацыду беларускага народу, учыненага над ім палітыкай савецкага рэжыму".

**Згуртаванне Беларусаў Канады**

# СУМЕСНАЯ ТВОРЧАЯ СУСТРЭЧА Ў БРАСЛАВЕ

У Браслаўскай школе мастацтваў адбылася сумесная творчая сустрэча Даўгаўпілскага паэта, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Станіслава Валодзькі і браслаўскага кампазітара Альберта Белуся.

У працэсе іх творчага супрацоўніцтва на свет з'явілася нямала песень, адрасаваных дарослым і дзецям. У канцэрце з іх песнямі ўзялі ўдзел ансамбль "Спадчына" Цэнтра беларускай культуры і беларускага таварыства "Уздым" у складзе Яны Юзэфовіч (мастацкі кіраўнік), Ліліі Воранавай, Галіны Мацулевіч, Леангіны Мужніецэ, Валянціны Бейнаровіч, Святланы Эзітэ, Мікалая Малаткова, Аляксандра Карала, акампаніятар Генрых Дэрук; салістка ансамбля "Пралескі" ЦБК Юлія Хмяльніцкая. У выкананні "Спадчыны" прагучалі песні "Матчына мова" і "На ростанях". Юлія Хмяльніцкая выканала песні "Беларусы свету", "Браслаўшчына", "Суніцы для Багдановіча" і "Песенька вясёлкі". У складзе даўгаўпілскай дэлегацыі былі Алег і Алёна Валодзька. У выкананні Алёны прагучаў верш для дзяцей "Куды падзеўся апетыт?"



Вакалісты Браслаўшчыны Ванда Сіротка, Валянціна Кука і Леанід Лаўрыновіч выканалі песні "Астры", "Ручнік", "Заручальны пярсцёнак", "Касцёр для дваіх", "Дранікі".

Спявачка Ірына Каралькова выступіла з песнямі, аўтарам музыкі якіх з'яўляецца Альберт Белусь, на вершы паэтаў Браслаўшчыны Тэрэзы Крумплеўскай – "Раманс" і Данііла Волчэка – "Браслаўскі вальс", а песню "Мая Радзіма" на словы Аўгуста Вайцяховіча праспявалі ўдзельнікі народнага ансамбля "Сябрына" Ахрэмаўскага цэнтра культуры Жанна Лабецкая, Ванда Сіротка і Валянціна Кука.

Завяршылася сустрэча песняй "Развітальная" (аўтар музыкі Таццяна Піменава) у выкананні даўгаўпілчан. Вядучай, дырэктарам Опсаўскага цэнтра культуры Карынай Пухаўской было сказана нямала добрых слоў у адрас удзельнікаў сустрэчы. У завяршэнне яна выказала спадзяванне на новыя цікавыя сустрэчы ў будучым.

**Саюз беларусаў Латвіі**

гутарка

# Зянон Пазьняк: УСЁ ПАЧАЛОСЯ З КУРАПАТАЎ

Адкрывальнік Курапатаў Зянон Пазьняк, які з 1996 года знаходзіцца ў эміграцыі, згадвае, як 30 гадаў таму стала магчымая публікацыя артыкулу пра расстрэлы ў Курапатах, тлумачыць, чаму людзі сталі менш ведаць пра Курапаты, і анансуе ініцыятыву "Брукаванка памяці".



**– Зянон Станіслававіч, рыхтуючыся да інтэрв'ю, я перачытала нашу з вамі размову ў 2008 годзе дзесяць гадоў таму, прысвечаную 20-годдзю адкрыцця Курапатаў, і фотаконкурсу "Маё фота – мае Курапаты". Па вялікім рахунку, яна не састарэла. Тады мы гаварылі пра тое, што Курапаты ў небяспецы, што не было суду над камунізмам, што за кратамі знаходзяцца людзі паводле палітычна матываваных прысудаў. І цяпер праз 10 гадоў тая ж самая ўлада ў Беларусі і ў Расіі, ёсць палітзняволеныя, вы па-ранейшаму ў эміграцыі, і Курапаты па-ранейшаму ў небяспецы – побач адкрываецца рэстаран і забаўляльны цэнтр. А што змянілася за 10, за 20, за 30 гадоў, пасля таго як свету стала вядомая праўда пра Курапаты? А што не павінна мяняцца?**

– Людзі сталі менш ведаць пра Курапаты і пра тое, што было нядаўна на памяці аднаго пакалення. Гэта вынік антыбеларускай палітыкі існуючай улады, менавіта – прапаганда ілжы і замоўчвання праўды.

Ёсць таксама іншы аспект. Перанасычанасць негатыўнай інфармацыяй спараджае прыгнечанасць пачуццяў, выклікае абаронны рэфлекс ад стрэсу. Тым часам у 1988 годзе, пасля адкрыцця Курапатаў, нашае грамадства перажыло глыбокі стрэс, які скалануў усіх.

Што не павінна змяняцца? Не павінны змяняцца перш за ўсё маральныя і праўныя ацэнкі злачынства, балеснае ўспрыняцце трагедыі генацыду і людабойства. Мусіць заставацца суперажыванне і жалоба, жальба над трагічным лёсам нарада і, адпаведна, раздумленне над будучыняй і цяперашчынай.

**– Для дачкі расстралянага паэта Маі Тодараўны Кляшторнай дзень 3 чэрвеня 1988 года, калі ў ЛіМе быў надрукаваны ваш артыкул з Яўгенам Шмыгалёвым "Курапаты – дарога смерці" з прадмовай Васіля Быкава, назаўсёды застаўся ў памяці. Вы кажаце, што людзі сталі менш ведаць пра Курапаты. Давайце каротка нагадаем, што адбылося, што папярэднічала гэтаму артыкулу і што змянілася пасля яго.**

– Гэтаму артыкулу папярэднічала пэўная лібералізацыя савецкага грамадства, перш за ўсё ў сферы інфармацыі. Але адкрыць праўду пра Курапаты на ўзроўні афіцыйнага друку тады было не рэальна. Я рыхтаваўся да гэтага 15 гадоў і выбраў момант перад 19-й канферэнцыяй КПСС, калі можна было скарыстаць часовы параліч сістэмы і паспрабаваць ударыць нечакана.

Усё ўдалося і прадумана, і рызыкоўна, але, зразумела, што, калі б не падтрымала рэдакцыя "Літаратуры і Мастацтва", якая пайшла на канфрантацыю з ЦК КПБ і нават забаставала (неверагодная справа – раней зачынілі б газету і разагналі б усіх з воўчымі білетамі, у 30-х расстралялі б), калі б не пазіцыя рэдакцыі "Літаратуры і мастацтва", то перамагчы абставіны было б цяжка.

Пасля публікацыі (як я гэта адчуваў) змяніўся свет. Выбух атамнай бомбы. Скаланулася ўсё грамадства і прыйшло ў рух. І ўсё гэта ўдалося скарыстаць. Праз чатыры месяцы быў створаны Беларускі народны фронт. Праз тры гады легітымным, мірным шляхам здабылі Незалежнасць Беларусі. Фактычна, усё пачалося з Курапатаў. Праўда пра Курапаты стала штуршком да свабоды.

Цалкам гутарку чытайце на сайце zbsb.org

Ганна Соўсь, "Радыё Свабода"

# ПОЛЬСКАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ ЎШАНАВАЛА ПАМЯЦЬ АХВЯРАЎ СТАЛІНСКІХ РЭПРЭСІЙ У КУРАПАТАХ

Урадавая дэлегацыя Польшчы, якая разам з дэлегацыямі Аўстрыі, Ізраілю, Нямеччыны і Чэхіі прыехала на адкрыццё мэмарыялу ў Трасцянцы, нацысцкім лагеры смерці, дзе ў 1941–44 гадах было знішчана больш як 206 тысяч чалавек, таксама наведала Курапаты, дзе ўсклала кветкі і свечкі да крыжоў ахвяраў.

Раней дзеячы беларускай культуры разам з прадстаўнікамі грамадскіх арганізацыяў, у тым ліку і ЗБС "Бацькаўшчына", звярнуліся да прэзідэнтаў Германіі, Польшчы, Аўстрыі, Ізраіля, а таксама да афіцыйных кіраўнікоў дэлегацый з заклікам уключыць у праграму візіту яшчэ і Курапаты, дзе ад канца траўня не спыняецца акцыя пратэсту супраць адкрыцця рэстаранна-забаўляльнага комплексу ў ахоўнай зоне найбуйнейшага беларускага нацыянальнага некропалю, дзе сталінскія каты ў 1937–1941 гадах расстралялі да 250 тысячаў бязвінных людзей.

Да брамы рэстарацыі "Поедем поедим", дзе праходзіла акцыя пратэсту, дэлегацыя не падышла.

Паводле "Радыё Свабода"



**навіны**

# АДБЫЎСЯ 72-ГІ АГУЛЬНЫ ГАДАВЫ З'ЕЗД ЗГУРТАВАННЯ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ

9 чэрвеня ў Беларускім Доме ў Лондане (52 Penn Road N7) адбыўся 72-гі агульны гадавы з'езд Згуртавання Беларусаў у Вялікай Брытаніі.




Напачатку прысутныя адзначылі хвілінай маўчання памяць сяброў ЗБВБ св. пам. Сільвестра Будкевіча і Джоан Дзейкі, а таксама аднаго з заснавальнікаў ЗБВБ Віктара Сянкевіча, якія адышлі з часу апошняга з'езда.

У асноўнай частцы з'езда былі заслуханыя справаздачы старшыні і сяброў Управы. Асаблівае значэнне і поспех былі прызнаныя за святочныя мі і акадэмічнымі імпрэзамі на адзначэнне 100-х угодкаў БНР у Вялікабрытаніі, арганізаванымі ЗБВБ у сакавіку з удзелам старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы, дэпутата ПП НС РБ Алены Анісім, былога галавы дзяржавы Беларусі Станіслава Шушкевіча, і шэрагу навукоўцаў з Беларусі і іншых краін. Мінулагодняя Управа надала таксама матэрыяльную падтрымку справам па адзначэнні гэтага юбілею ў Рэспубліцы Беларусь і іншых краінах. З'езд даў уступаючай Управе "абсалютарыум з падзякай". Удзельнікі з'езда абмеркавалі таксама планы на наступны год.

Новы склад кіраўніцтва з'ездам абраны на аснове ранейшага складу, пашырыўшы Управу на адну асобу: новым сябрам Управы абраны Андрэй Вышадок.

**Згуртаванне Беларусаў у Вялікай Брытаніі**

# "ЯВАРОВЫ ЛЮДЗІ" ПРЭЗЕНТАВАЛІ МУЗЫЧНУЮ КАЗКУ "ТО-ТО-ТО" Ў НЬЮ-ЁРКУ

У беларускім цэнтры пры саборы св. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку 10 чэрвеня адбылася прэзентацыя фільма "То-то-то", – першага фільма, знятага беларускім фольк-гуртом з Канады "Яваровы людзі".




Прэзентацыю вяла Віялета Кавалёва, кіраўнік гурта, рэжысёр і суаўтар сцэнара фільма. Прэзентацыя прайшла пры падтрымцы Беларуска-Амерыканскага Задзіночання.

Фільм "То-то-то" – гэта музычная казка. У ім няма слоў, ёсць толькі беларускія народныя песні ў выкананні гурта, часам у спалучэнні з інструментальнай музыкай. Хоць у сюжэце выкарыстоўваюцца некаторыя матывы беларускага фальклору, фільм не з'яўляецца экранізацыяй ніводнай вядомай нам беларускай казкі. Гэтую гісторыю прыдумалі, выканалі, знялі і змантіравалі самі ўдзельнікі гурта "Яваровы людзі". Фільм здымаўся ў Таронта і на поўначы правінцыі Антарыа.

Прысутныя павіншавалі Віялету і ўвесь гурт "Яваровы людзі" з выхадам іх першага фільма, які з упэўненасцю можна назваць паспяховым. Усе прысутныя адзначылі акторскае майстэрства герояў фільма.

Віктар Дудараў даў некалькі прафесійных парадаў па відэаздымцы і мантажу. Зянон Пазняк, як тэатразнаўца паводле адукацыі, таксама даў станоўчую характарыстыку фільму і асабліва пакрэсліў, што гурту ўдалося зрабіць галоўнае – стварыць прыемную атмасферу праз спалучэнне гісторыі фільма, народных песень і малюнкаў прыроды.

**Наталля Федарэнка, "Новы Час"**

## ПАМЕРЛА ЖОНКА БАРЫСА КІТА ТАМАРА КАЗЕВІЧ

22 чэрвеня ў Франфурце-на-Майне на 82-м годзе жыцця памерла Тамара Казевіч, жонка беларускага асветніка і навукоўца, грамадзяніна ЗША Барыса Кіта. Пасля смерці мужа яна сур'ёзна хварэла. Тамара Казевіч перажыла Барыса Кіта на чатыры з паловай месяцы. Пра смерць Тамары Казевіч паведаміла яе дачка Ірына. Тамару Казевіч пахаваюць на тых жа могілках праваслаўнай царквы ў гонар святой Лізаветы ў Вісбадэне, дзе пахавалі Барыса Кіта.

**Паводле "Радыё Свабода"**



## Беларускі каляндар памятных дат на ліпень 2018 года

1 ліпеня – 425 гадоў таму, у 1593-м, нарадзіўся Альбрэхт Станіслаў Радзівіл, гісторык.

1 ліпеня – 80 гадоў таму, у 1938-м, расстраляны Іван Цвікевіч, дзеяч навукі і культуры.

2 ліпеня – 30 гадоў таму, у 1988-м, памёр Часлаў Ханяўка, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

3 ліпеня – 100 гадоў таму, у 1918-м, нарадзіўся Рыгор Бярозкін, літаратар.

4 ліпеня – 30 гадоў таму, у 1988-м, у Вільні створаны беларускі клуб "Сябрына".

5 ліпеня – 200 гадоў таму, у 1818-м, нарадзіўся Антон Яленскі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг.

6 ліпеня – 155 гадоў таму, у 1863-м, расстраляны Кастусь Жаброўскі, палявы камандзір паўстанцкага атрада.

8 ліпеня – 25 гадоў таму, у 1993-м, у Мінску пачаўся Першы з'езд беларусаў свету.

9 ліпеня – 155 гадоў таму, у 1863-м, павешаны Зыгмунт Серакоўскі, адзін з кіраўнікоў вызваленчага паўстання.

12 ліпеня – 175 гадоў таму, у 1843-м, памёр Ігнат Даніловіч, гісторык.

13 ліпеня – 160 гадоў таму, у 1858-м, нарадзіўся Андрэй Вількіцкі, гідрограф-геадэзіст.

13 ліпеня – 150 гадоў таму, у 1868-м, памёр Канстанцін Тышкевіч, адзін з заснавальнікаў беларускай навуковай археалогіі.

14 ліпеня – 100 гадоў таму, у 1918-м, у Маскве адбылося першае публічнае пасяджэнне Беларускага навукова-культурнага таварыства.

14 ліпеня – 20 гадоў таму, у 1998-м, памёр Леанід Кароль, грамадскі дзеяч.

15 ліпеня – 115 гадоў таму, у 1903-м, нарадзілася Алена Лябецкая, дзеяч Таварыства Беларускай Школы.

17 ліпеня – 100 гадоў таму, у 1918-м, у Маскве пачаўся Усерасійскі з'езд бежанцаў з Беларусі.

17 ліпеня – 20 гадоў таму, у 1998-м, памёр Сяргей Сідар, географ.

19 ліпеня – 75 гадоў таму, у 1943-м, памёр Сяргей Дарожны (сапр. Серада), пісьменнік.

26 ліпеня – 85 гадоў таму, у 1933-м, памёр Францішак Грынкевіч, рэлігійны дзеяч.

26 ліпеня – 70 гадоў таму, у 1948-м, нарадзіўся Уладзімір Плешчанка, грамадскі дзеяч.

26 ліпеня – 40 гадоў таму, у 1978-м, памёр Аляксей Васіленя, дзеяч беларускай эміграцыі ў Нямеччыне і Аўстраліі.

27 ліпеня – 30 гадоў таму, у 1988-м, памёр Серафім Татарын, грамадска-культурны дзеяч.

28 ліпеня – 155 гадоў таму, у 1863-м, расстраляны Тамаш Грыневіч, удзельнік вызваленчага паўстання.

29 ліпеня – 110 гадоў таму, у 1908-м, нарадзіўся Юрка Лявонны (сапр. Юркевіч Леанід), паэт.

31 ліпеня – 105 гадоў таму, у 1913-м, нарадзіўся Міхаіл Петрыкевіч, краязнавец, музеязнавец.

**Беларусы ў свеце**
No 6 (193), чэрвень 2018
Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандрацэнка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27